А. Жураўскі.

# Беларуская мова ў старажытнасці.

На аснове параўнальна - гістарычнага вывучэння сучасных славянскіх моў навукай устаноўлена, што ўсе славянскія мовы з'яўляюцца сваяцкімі і развіліся з адной агульнай мовы, якую ў мовазнаўстве прынята называць агульнаславянскай.

Самая шматлікая група славянскіх плямёнаў, якая займала вялізныя прасторы Ўсходняй Еўропы, адасобіўшыся ад іншых частак славянства, дала пачатак старарускай народнасці, стваральніку і носьбіту старарускай мовы.

Нягледзячы на значную тэрыторыю, якую займалі ўсходнеславянскія плямёны ў канцы 1 тысячагоддзя нашай эры, мова ўсходніх славян гэтага часу (у мовазнаўстве яе называюць старарускай) была агульнай і не мела дыялектных адрозненняў, але ў ёй адбываліся паступовыя змены, якія ўсё больш і больш аддалялі яе ад іншых славянскіх моў.

Літаратурная мова старажытнай Русі існавала ў трох відах пісьменнасці — рэлігійным, мастацкім і дзелавым. Мова гэтых відаў старажытнай пісьменнасці характарызуецца неаднолькавымі суадносінамі з жывой гутаркавай мовай свайго часу. Царкоўна-рэлігійная пісьменнасць пачала пашырацца на Русі ў канцы X ст. у сувязі з прыняццем хрысціянства. Рэлігійныя творы звычайна пісаліся на стараславянскай мове, якая ў старажытнай Русі стала афіцыяльнай мовай набажэнства і царкоўнай кніжнасці. Стараславянская мова аказвала значны ўплыў на мову іншых відаў старажытнай пісьменнасці, хаця ў сваю чаргу яна падвяргалася ўздзеянню з боку жывой старарускай мовы. Некаторыя рысы старарускай мовы арганічна ўліліся ў тканіну стараславянскай мовы, што прывяло да ўзнікнення асобай разнавіднасці стараславянскай мовы, якую прынята называць царкоўнаславянскай мовай.

На працягу XI—XII ст. у грамадска - палітычным жыцці старарускай дзяржавы адбыліся значныя змены. З далейшым пашырэннем феадальнай уласнасці на зямлю, з развіццём раместваў і гандлю пачалі ўзнікаць і ўмацоўвацца мясцовыя феадальныя ўладанні, якія паступова сталі эканамічнымі і палітычнымі цэнтрамі паасобных зямель. Палітычныя і эканамічныя сувязі паміж паасобнымі землямі старарускай дзяржавы пачалі паслабляцца, разам з гэтым паслабляліся і зносіны паміж насельніцтвам розных мясцовасцей. Феадальнае драбленне прывяло да таго, што з канца XI ст. старaруская дзяржава пачала аслабляцца і распадацца.

Феадальная раздробленасць старарускіх зямель і міжусобныя княжаскія войны з'явіліся прычынай паспяховага апусташальнага нашэсця мангола - татарскіх орд на паўночна - усходнія землі Русі ў сярэдзіне XIII ст. Гэтыя землі аказаліся ў васальнай залежнасці ад ханскай улады. Карыстаючыся аслабленнем старарускай дзяржавы, літоўскія феадалы пачалі захопліваць заходнія землі Русі. Утаржэнне літоўцаў у гэтыя землі было асабліва інтэнсіўным у другой палове XIII ст. У сярэдзіне XIV ст. амаль уся тэрыторыя Беларусі знаходзілася пад уладай літоўскіх князёў. У другой палове XIV ст. літоўскія феадалы падпарадкавалі сабе большую частку паўднёварускіх (украінскіх) зямель і Смаленскае княства. У выніку гэтага старaруская народнасць аказалася падзеленай на некалькі адарваных адна ад другой частак, якія апынуліся ў розных умовах палітычнага, эканамічнага і культурнага жыцця. У саміх жа гэтых частках адбываўся працэс умацавання ўнутраных сувязей і агульнасці, выкліканых ростам гарадоў, развіццём раместваў, гандлю і сельскай гаспадаркі. На працягу XIV—XVI ст. на старарускіх землях пачалі складвацца тры брацкія народнасці — руская, беларуская і ўкраінская, кожная з якіх мела сваю мову, тэрыторыю, а таксама элементы эканамічнай і культурнай агульнасці.

Мовы ўсходнеславянскіх народнасцей у гэты перыяд перажывалі рад змен, якія ўсё больш аддалялі іх ад мовы папярэдняга перыяду. У іх, з аднаго боку, адбываліся працэсы, уласцівыя ўсім усходнеславянскім гаворкам таго часу або большай частцы іх. З другога боку, у кожнай з гэтых моў узнікалі свае спецыфічныя рысы, якіх не было ў астатніх усходнеславянскіх мовах. Іменна ў гэты перыяд узніклі тыя важнейшыя моўныя рысы, якімі сучасныя ўсходнеславянскія мовы — руская, беларуская і ўкраінская — адрозніваюцца адна ад другой. У беларускай мове, акрамя рыс, уласцівых толькі ёй, развілося таксама некалькі з'яў, агульных з рускай мовай у адрозненне ад украінскай мовы. Разам з тым узніклі і такія рысы, якія сталі агульнымі для беларускай і ўкраінскай мовы. Гэтыя агульныя рысы выкліканы былі тым, што ў эпоху Вялікага княства Літоўскага сувязь паміж беларускімі і ўкраінскімі землямі была вельмі цеснай, што знайшло адпаведнае адлюстраванне ў мове беларусаў і ўкраінцаў.

Пісьмовая мова беларускай народнасці першапачаткова працягвала традыцыі старарускай літаратурнай мовы. Але ў новых умовах літаратурная мова падверглася значнаму ўплыву з боку мясцовых гаворак, і таму яна паступова выпрацавала свае адметныя рысы.

Пісьменнасць у гэты час існавала таксама ў трох відах — рэлігійным, мастацкім і дзелавым. Але суадносіны гэтых відаў пісьменнасці з жывой народнай мовай былі іншымі, чым у старарускі перыяд. Рэлігійная пісьменнасць на Беларусі першапачаткова стваралася і перапісвалася на царкоўнаславянскай мове. Але ва ўмовах Беларусі XV—XVI ст. праваслаўе, школы і наогул царкоўная пісьменнасць аказаліся ў заняпадзе, а царкоўна-славянская мова стала незразумелай не толькі простаму народу, але і праваслаўнаму духавенству. Усім гэтым выклікалася неабходнасць перакладу твораў свяшчэннага пісання на жывую народную мову. Ажыццяўленню гэтага садзейнічала і пашырэнне на Беларусі ідэй рэфармацыі, прыхільнікі якой высоўвалі патрабаванне чытаць творы свяшчэннага пісання і адпраўляць набажэнства на роднай мове.

Першыя пераклады твораў свяшчэннага пісання на беларускую мову адносяцца да пачатку XVI ст. і звязаны з асветніцкай дзейнасцю выдатнага дзеяча старажытнай беларускай культуры Францыска (Георгія) Скарыны, які на працягу 1517 — 1519 гадоў пераклаў на беларускую мову і выдаў частку «Біблії». Але Скарына не здолеў яшчэ поўнасцю перайсці на беларускую мову. Беларуская аснова мовы яго перакладаў аказалася насычанай значнай колькасцю паланізмаў, чэхізмаў і асабліва царкоўнаславянізмаў. Элементы і формы царкоўнаславянскай мовы свядома ўводзіліся Скарынам і разглядаліся ім як натуральны элемент школы і наогул пісьменнасці. Яны служылі сродкам надання рэлігійным творам урачыстасці і ўзнёсласці ў сувязі з неабходнасцю проціпаставіць моўнымі сродкамі творы свяшчэннага пісання іншым відам тагачаснай літаратуры.

Імкненне наблізіць мову рэлігійнай пісьменнасці да жывой беларускай мовы знайшло сваё закончанае выражэнне ў асветніцкай дзейнасці Сымона Буднага, які ў 1562 г. выдаў у Нясвіжы на беларускай мове «Катэхізіс», і Васіля Цяпінскага, які каля 1570 г. пераклаў на беларускую мову «Евангелле». У канцы XVI — пачатку XVII ст. на беларускай мове з'явілася мноства рукапісных і друкаваных арыгінальных і перакладных рэлігійных твораў, у якіх выкладаліся асновы хрысціянскага вучэння і якія прызначаліся для чытання веруючымі дома.

(Заканчэнне ў наступным нумары).



## З кітайскага саду

Грушы ў Кітаі вырошчваюцца больш тысячы год. Ды яны розняцца ад нашых: выгляд і велічыня падобныя, толькі колер іх скуры не зялёны, а жоўта-белы. Галоўная розніца аднак тая, што кітайскія грушы вельмі цвёрдыя, але сочныя і салодкія. Гэтая цвёрдасць і падабаецца кітайцам (нашыя грушы ім не да спадобы).

Некаторыя гатункі кітайскіх груш маюць незвычайную здольнасць доўга ляжаць не гніючы. Напрыклад, груша, якая год праляжала ў склепе, нічым не адрозніваецца ад свежай, знятай з дрэва.

Нашых груш у Кітаі мала, але вось з яблыкамі справа якраз наадварот. Кітайскіх яблык не любяць кітайцы. І зараз большасць яблынь у Кітаі — гэта наш еўрапейскі гатунак асенніх і зімовых яблык, якія былі ўведзены ў першыню ў Кітай 80 год назад.

Сады ў Кітаі вельмі распаўсюджаны. У адной, напрыклад, правінцыі Ляонінг на поўнач ад Пекіна, у 1957 годзе было 5 мільёнаў яблынь па 6—50 год і 14 мільёнаў па 1 — 5 год. Кітайскі экспарт пладоў расце з году ў год.

Не ўсім хіба вядома, што радзімай персіка (плод падобны да слівы, толькі большы, чырвона - ружовага, або жоўта - ружовага колеру) з'яўляецца Кітай. Расце персік у Кітаі ўжо многа тысяч год. Многа гатункаў гэтага плода распаўсюдзілася там. У Кітаі ёсць 2 гатункі абрыкосаў. Адзін — падобны да нашага, другі — у сярэдзіне мае вялікія салодкія зерні, з якіх робіцца вельмі смачная страва.

Найбольш распаўсюджаным пладовым дрэвам у Кітаі з'яўляецца т. зв. ююба — кітайскі фінік. Гэтае дрэва здалёк, падобнае да нашай акацыі, расце ва ўсім Кітаі. Вытрымлівае маразы да 20°С. Яго плады, падобныя велічынёй і формай да нашай слівы - вянгеркі. Найсмачнейшы фінік сушоны або зацукраваны.

Другім пладовым дрэвам, які не ўступае папулярнасці ююбе з'яўляецца персімона. Расце яна ў цэнтральным Кітаі. Дае вялікі плён — да 500 цэнтнераў з гектара.

Персімона — дрэва высокае, разлапістае, як наша груша. Плады яе падобны да памідораў — чырвоныя, апельсінавыя ці жоўтыя. У адным плодзе бывае некалькі зярнят, падобных да зярнят дыні. Персімоны — гэта найтаннейшыя фрукты ў Кітаі.



## Французская літаратура ў СССР

У Савецкім Саюзе, як ні ў якой іншай краіне, выдаецца многа перакладной замежнай літаратуры.

Першае месца сярод замежных аўтараў займаюць творы французскіх паэтаў і празаікаў.

За 14 год (1946—1959) творы французскіх пісьменнікаў выданы 4519 разоў — тыражом 125 млн. 988 тыс. экз. Гэта ў два разы больш, чым за ранейшыя 28 год. Калі ў даваенныя гады сярэдні гадавы тыраж твораў французскай літаратуры не перавышаў 1,7 млн. экз., то за апошнія 5 год ён вырас ў 11 разоў і складае 18—20 млн. экз.

Кнігі французскіх аўтараў чытаюць на 50 мовах розных народаў СССР.

---

### ШПІЯНАЖ У ГАЛІНЕ МОДЫ

У Галандыі нядаўна адбылася нарада юрыстаў 30 краін. Мэтай нарады было прадухіленне шпіянажу ў галіне моды. Патрэба змагання з шпіянажам была выклікана выпадкамі выкрадання новых мадэляў. Часта здараецца, што новаапрацаваная мадэль у Парыжы пакуль дойдзе да рэалізацыі, дык ужо ў Н'ю-Йорку даўно носяць вопратку паводле гэтай навейшай мадэлі.

---

### ЗЕМЛЕТРАСЕННЕ — ШТОДЗЁННАЯ З'ЯВА

Часта здараецца, што людзі лічаць землетрасенне надзвычайнай з'явай. Тымчасам штогод здараецца на нашай планеце каля мільёна патрасенняў зямлі. Значная іх большасць не адчуваецца чалавекам. Землетрасенні, якія прыносяць шкоду людзям, здараюцца адносна рэдка. Але і іх бывае каля 700 у год. Здараюцца землетрасенні, пры якіх утвараюцца шчыліны даўжынёй сотні кіламетраў і глыбінёй да 15 метраў.

---



Новае польскае будаўніцтва.




Кажуць, глыбока пакахаць можна толькі адзін раз у жыцці. Але гэта няпраўда. Аб гэтым я толькі цяпер пераканаўся на сабе. Чатыры гады таму назад я пакахаў Крысю і ажаніўся з ёю. У нас ёсць дачка. Крыся мае толькі пачатковую школу, працавала ў вясковай краме, а я ў той час працаваў у іх вёсцы на пошце. Год таму назад службова перавялі мяне ў іншы павет. Там я падружыўся з настаўніцай. Шчыра яе пакахаў. Нарэшце прызнаўся, што ў мяне ёсць жонка і дачка. Але яна цяпер на гэта не зважае і раіць мне разыйсціся з жонкаю.

Я адзін раз у месяц прыязджаю да жонкі. Але адчуваю, што яе зусім не кахаю, больш таго, ненавіджу. Не падабаецца мне, як яна гаворыць, як рыхтуе абед, як усміхаецца. Адносіны мае да жонкі халодныя. Я знаю, што крыўджу яе, але інакш не магу адносіцца. Знаю, што калі чалавека ненавідзіш, дык тады не сямейнае жыццё, а катарга для мужа і жонкі.

Як паступіць, парадзь мне, Сэрцайка?

Костак
павет Лапскі

Раю вам узяць сябе ў рукі і ліквідаваць сваю слабасць да чужых жанчын. Трэба вам абавязкова выехаць з той мясцовасці, дзе жыве гэта настаўніца, а найлепш будзе, калі вы не будзеце далёка жыць ад жонкі, калі не будзеце цікавіцца другімі жанчынамі, тады любоў да жонкі, якую ў мінулым шчыра любілі, напэўна вернецца. Гэта, праўда, будзе вам троха цяжкавата, але з часам яно міне і вы забудзецеся аб настаўніцы.

Аб вашых адносінах да настаўніцы не павінна ведаць жонка, бо ў яе можа быць недавер да вас доўгія гады.

СЭРЦАЙКА

